

# НавіНЫ БНФ

нумар 9 (87)
15 кастрычніка 2005


## У нумары:





# Адзіны прэтэндэнт ад дэмакратычных сілаў Беларусі – Аляксандар МІЛІНКЕВІЧ

## першая асоба



Вельмішаноўныя фронтаўцы, сябры, аднадумцы!

Віншую вас са значнаю падзеяй на шляху Беларусі да свабоды — з выбраньнем адзінага дэмакратычнага кандыдата ў прэзыдэнты. Ім стаў Аляксандар Мілінкевіч — прэтэндэнт, якога вылучыла й у падтрымку якога правяла выдатную кампанію Партыя БНФ.

Мы — ідэйная палітычная сіла. І вельмі цешыць, што Беларуская ідэя перамагла, аказалася мацнейшаю за буклеты, тэхналёгіі й сцэнары.

Перамовы ў рамках «пяцёркі» й «дзясяткі» былі нялёгкімі, асабліва ў апошнія тыдні перад Кангрэсам. Мы пайшлі насустрач усім патрабаваньням нашых калег пры фармаваньні квотаў прадстаўніцтва на Кангрэсе — усё дзеля захаваньня кааліцыі, дзеля таго, каб ніхто пасьля не аспрэчыў вынікаў па фармальных прыкметах. На шчасьце, пасьля Кангрэсу і Анатоль Лябедзька, і Сяргей Калякін праявілі высокую адказнасьць і палітычную культуру, заявіўшы аб прызнаньні вынікаў і гатоўнасьці працаваць у адзінай камандзе. Усё гэта азначае таксама, што рознага кшталту індывідуальныя палітычныя гульцы больш ня будуць блытаць дэмакратычную грамадзкасьць; лепш за ўсё было б, каб і яны далучыліся да каманды.

Пагатоў і нам, фронтаўцам, трэба пачувацца адказнымі за зьберажэньне адзінства шырокай кааліцыі дэмакратычных сілаў. Кангрэс укаранаваў сабой доўгі й няпросты працэс кансалідацыі палітычных партыяў на грунце каштоўнасьцяў незалежнасьці й дэмакратыі. Улады недацанілі нас і таму пагадзіліся на правядзеньне Кангрэсу ў Менску; зрэшты, была яшчэ просьба Украіны не ствараць канфліктнай сытуацыі (калі б Кангрэс мусіў прайсьці ў Кіеве) узамен за пэўныя міжнародныя кантакты для Лукашэнкі.

Цяпер улады паспрабуюць узяць рэванш, запалохваючы нас, правакуючы, спрабуючы расколоць. Не паддамося. Новы каардынацыйны орган — Палітычная рада ў складзе Стала дзейнай нарады дэмакратычных сілаў («Дзясяткі») і на чале з адзіным кандыдатам — якраз і трымацьме дэмакратычную кааліцыю ў рэчышчы адзінай палітычнай кампаніі на карысьць адзінага кандыдата.

Усе разумеюць, што Народны Фронт — асноўная сіла, якая зрабіла А.Мілінкевіча адзіным кандыдатам. У другім туры галасаваньня Кангрэсу дэмакратычных сілаў, калі бальшыня галасоў ПКБ была дысцыплінавана аддадзеная Анатолю Лябедзьку, Фронт чарговы раз даказаў, што ён больш уплывовы за сваіх партнэраў, нават разам узятых. Мы пацьвердзілі сваё вядучае месца сярод дэмакратычных сілаў краіны.

Але асноўнае месца мае на ўвазе й асноўны цяжар адказнасьці. Мы абавязаныя браць адказнасьць на сябе. Наперадзе праца значна цяжэйшая, непараўнальна больш небясьпечная. Мы не даможамся нічога, калі ня будзем арыентавацца на перамогу. Калі ж, ня дай Божа, хто-небудзь разглядае кампанію 2006 году як «камэрцыйны праект» ці як «трэнінг» перад мясцовымі выбарамі 2007 году, такія людзі павінны быць рашуча адсунутыя ад справаў і пасадаў і ў нашай партыі, і ў штабе. Хай рэалізуюць сваю камэрцыйную жылку ў бізнэсе ці ў дзяржаўнай адміністрацыі. Бо ня будзе нічога ні ў 2007, ні ў 2011, калі ня будзе прарыву ў годзе наступным.

Мяркую, наагул штабныя структуры ў Менску й у рэгіёнах павінны фармавацца зь людзей (незалежна ад партыйнасьці), якія лепш за ўсё працавалі падчас кампаніі раённых сходаў і падрыхтоўкі да Кангрэсу.

Я падтрымліваю безупынны працоўны кантакт з адзіным кандыдатам Аляксандрам Мілінкевічам. Зараз удакладняецца арганізацыйная схема штабу адзінага кандыдата, яна будзе вынесеная на зацьверджаньне Палітычнай рады. З улікам мясцовых прапановаў будзе збудаваная сетка рэгіянальных штабоў. Наша асноўная праца на бліжэйшы час — данесьці да шырокай грамадзкасьці добрую вестку: самаўладзтву ёсьць альтэрнатыва.

# Трапны выбар Партыі БНФ



**Алесь Міхалевіч,**
намесьнік старшыні Партыі БНФ

"Калі не Лукашэнка, то хто?" – пытаюць мяне дзясяткі маіх знаёмых. Гэтае пытанне будзе гучаць усё часьцей па меры набліжэньня да даты выбараў прэзыдэнта. І ўпершыню адказ нашай партыі супадае зь меркаваньнем большасьці нашых землякоў. Я ў гэта веру, бо зьяўляюся палітычным рэалістам.

Беларусі патрэбна ня проста альтэрнатыва. Беларусі патрэбны сымбаль. Сымбаль нармальнасьці. І ім ня здолее стаць звычайны палітык. Найноўшая гісторыя Беларусі будзе дзяліцца на "падчас" і "пасьля Лукашэнкі". І нам не патрэбны свой лукашэнка са знакам плюс. Беларусі патрэбны зусім іншы герой. Патрэбна маральная альтэрнатыва. І такой альтэрнатывай зьяўляецца Аляксандар Мілінкевіч.

Скептыкі гавораць, што ў яго шмат недахопаў, з-за якіх людзі яго не падтрымаюць.

Першае. Мілінкевіч старэйшы за Лукашэнку. Але Лукашэнка столькі разоў паўтараў нам, што ён – малады палітык, што грамадзтва даўно падрыхтаванае да таго, каб прыйшоў хтосьці старэйшы. Мілінкевічу ў 2006 споўніцца 59 гадоў. І гэта ня ёсьць недахоп. Урэшце, абіраем не дэпутата гарсавета. І чалавек мусіць мець жыцьцёвы досьвед. А Мілінкевіч яго мае. Пабудаваў дом, выгадаваў дзяцей, сказаў сваё слова ў навуцы. Выкладаў за мяжой, працаваў на высокай адміністрацыйнай пасадзе. Меў мужнасьць зь яе сысьці ў патрэбны момант.

Другое. Мілінкевіч другі раз жанаты. Але ў адрозьненьні ад дзейнага прэзыдэнта, ён жыве са сваёй жонкай, падтрымлівае дзяцей і захоўвае прыязныя адносіны з жонкай былой. І такое наш народ здольны ўспрыняць.

Трэцяе. У параўнаньні з адрэпэтаванымі прамовамі Лябедзькі ці эмацыйнымі выступамі Калякіна Мілінкевіч прамаўляе слабавата, кажуць мае знаёмыя. Але Мілінкевіч паказаў, што здольны вучыцца. І з кожным разам яго прамовы становяцца ўсё лепшымі і лепшымі. **/працяг на старонцы 6/**

**У суботу на паседжаньні Сойма Партыі БНФ адбудзецца падпісаньне пагадненьня аб супрацы паміж Партыяй БНФ і моладзевым аб'яднаньнем "Правы альянс". Насамрэч, супольная праца ідзе ўжо даўно. Пра супольную дзейнасьць і новую арганізацыю "Навінам" распавёў яе старшыня Юры КАРЭТНІКАЎ.**



# Новы альянс



"Правы альянс" у самым агульным сэнсе – гэта аб'яднаньне патрыятычнай моладзі, для якой свой лёс і лёс Беларусі, адзінае цэлае.

**– Якія мэты ставіць сабе арганізацыя?**

– Асноўнай мэтай зьяўляецца пабудова нацыянальнай дзяржавы. Таксама арганізацыя лічыць вельмі істотным выхаваньне будучай нацыянальнай эліты, разьвіцьцё дэмакратыі й адраджэньне беларускай культуры – гісторыі, мова, традыцыйнае мастацтва

**– Якую палітычную ідэалёгію вы вызнаеце?**

– Для нас асноўнымі зьяўляюцца кансэрватыўныя й нацыянальныя каштоўнасьці. Кансэрватыўныя – бо мы лічым гэтыя каштоўнасьці найбольш блізкімі да беларускага мэнталітэту, і менавіта кансэрватыўная ўлада павінна кіраваць у Беларусі пасьля перамогі дэмакратыі. А нацыянальныя – бо кожны народ мусіць прайсьці свой шлях да нацыянальнай дзяржавы праз нацыяналізм і тая "вясна нацыяў", якая была ў народаў Эўропы напрыканцы XIX стагоддзя хутка прыйдзе і на Беларусь, хай сабе і са спазьненьнем.

**– Ці адпавядае вашаму бачаньню лідэра нацыі абраны Кангрэсам дэмакратычных сілаў Алесь Мілінкевіч?**

– Так, безумоўна. Спадар Мілінкевіч – гэта менавіта той кандыдат, якога "Правы альянс" падтрымліваў ад пачатку, дарэчы, як і Партыя БНФ. Нам падабаецца яго грунтоўнасьць, разважлівасьць, трываласьць, але разам з тым – яго цьвёрдасьць і прага да цэнтралізма у будаваньні ўладнай сыстэмы.

**– Як вас напаткала ідэя падпісаньня дамовы аб супрацы з Партыяй БНФ? Каго вы бачыце сваім палітычным саюзьнікам?**

– Усё адбываецца натуральна. Наша арганізацыя – альянс, і мы аб'ядноўваем некалькі невялікіх грамадзянскіх ініцыятываў. Мы адкрытыя да супрацы з усімі, хто працуе на карысьць Бацькаўшчыны. Але менавіта палітычна блізкай да нас зьяўляецца Партыя БНФ.

**– Як, на Вашую думку, мусіць выглядаць супраца Партыі БНФ і Правага Альянсу?**

– Безумоўна, гэта ня будуць ад носіны "старэйшага з малодшым", але мусіць быць моцны хаўрус, які будзе дынамічна рухацца да рэалізацыі агульных мэтаў. Хаўрус супольных дзеяньняў.

**– Што ўжо было зроблена агульнымі намаганьнямі?**

– Акрамя працы на карысьць нацыянальнага адраджэньня – палітычнай, адукацыйнай, культурніцкай, мы супрацоўнічалі падчас правядзеньня абласных і раённых сходаў. Я асабіста лічу, што мы добра й эфэктыўна спрацавалі пры падрыхтоўцы і правядзеньні Кангрэсу Дэмакратычных Сілаў. Нагадаю, што "Правы альянс" меў на Кангрэсе прадстаўніцтва зь пяці дэлегатаў (чатыры былі абраныя на сходах, а адзін вылучаны па квоце НДА). Па-другое, менавіта сіламі "Правага альянсу" была цалкам забясьпечаная ахова мэрапрыемства.

**– Якую ролю, на Вашую думку, павінны адыгрываць "Правы альянс" пад час прэзыдэнцкай кампаніі адзінага кандыдата?**

– Мы бачым сваё месца там , дзе здольныя прынесьці найбольшую карысьць. Гэта павінна быць праца, у якой "Правы альянс" мае добры досьвед. Перш за ўсё – праца з моладзьдзю і, зразумела, кампанія па распаўсюду інфармацыі пра нашага кандыдата у тых рэгіёнах дзе наша арганізацыя мае моцныя структуры. Мы ўпэўненыя , што ў 2006 годзе пры добра скаардынаванай працы ўсёй дэмакратычнай грамады мы здолеем зьмяніць сытуацыю на Беларусі. Шанец, які мы атрымалі пасьля абраньня адзінага кандыдата й кансалідацыі усіх здаровых сілаў, мы проста не маем права згубіць ,бо як дзень зьмяняе ноч – так і аднойчы й свабода зрывае кайданы.

# 4 погляды на у пытаньнях і адказах

## Пытаньні Мілінкевічу — намесьніку старшыні гарвыканкаму:

***1. Які ў Вас быў сярэднестатыстычны працоўны дзень?***

Працоўны дзень быў заўсёды больш вялікі за абавязковы. У мяне ў падпарадкаваньні было 7 аддзелаў: культуры, адукацыі, аховы здароўя, спорту й турызма, моладзі, аховы гістарычнай спадчыны, інфармацыі. Прыходзілася займацца пытаньнямі рэлігіяў, нацменшасьцяў, міжнародных сувязяў. Работа была некабінэтнай: наведваў мноства мерапрыемстваў, што арганізоўвала гарадзкая ўлада й грамадзкія арганізацыі. Да таго ж, працуючы ў гарвыканкаме, я ніколі не губляў сувязі з "alma mater" — працаваў на чвэрць стаўкі дацэнта фізычнага факультэта ў родным унівэрсытэце. Сярэднестатыстычны дзень быў 10 — 12 гадзінаў.

***2. Вам там было камфортна?***

Спачатку ня вельмі: усё ж такі я быў чужародным целам, прыйшоў з унівэрсытэцкай катэдры, не рабіў перад тым камсамольскай кар'еры. Нельга сказаць, што была варожасьць, хутчэй асьцярожнасьць, часткова цікавасьць. Многія людзі выканкама чакалі ад мяне рэвалюцыйных крокаў — радыкалізму ў дзеяньнях. Калі гэта не адбылося, усе супакоіліся. У большасьці сур'ёзных палітычных пытаньняў я дасягаў мэты ня гвалтам, а цьвёрдасьцю й асьветай. Напрыклад, пасьля работы чытаў лекцыі для супрацоўнікаў гарвыканкама па гісторыі Горадні. Бяз гэтага было б цяжка вырашаць пытаньні рэстаўрацыі старога горада. Ужо праз год я адаптаваўся й працаваў больш упэўнена. Ці камфортна? Пэўна, не. Бо гэта быў час значных пераўтварэньняў, а значыць палітычнай барацьбы. Я быў адзіны дэмакрат на ўсе мясцовыя ўлады: і гарадзкую, і абласную. Сярод бюракратаў ёсьць мноства прафэсіяналаў. Зь імі было няцяжка знайсьці агульную мову.

***3. Якія Вашыя галоўныя посьпехі й паразы на гэтай працы (што лепш за ўсё атрымалася, чаго не ўдалося пазьбегнуць, чым ганарыцеся, на што хацелі б забыцца)?***

Галоўныя посьпехі?.. Перш за ўсё — стварэньне нацыянальнай школы. Калі я прыйшоў ва ўладу ў 1990 годзе, у Горадні навучаньне ва ўсіх школах і садках было выключна па-расейску. Калі адыходзіў напачатку 1996 года, 75% першых класаў горада вучыліся па-беларуску. Зьявіліся паўнавартасная польская школа, а таксама літоўская й габрэйская нядзельныя школкі. У Гарадзенскім унівэрсытэце многія курсы па фізіцы, матэматыцы, правазнаўстве, біялёгіі чыталіся на беларускай мове. Паседжаньні гарвыканкаму, большасьць ягоных дакумэнтаў, аб'явы ў транспарце — па-беларуску. Буйнела мастацкае жыцьцё. Калі ў гістарычным цэнтры вызвалялася памашканьне, яго прапанавалі перш за ўсё мастакам. Зьявіліся помнік Вітаўту Вялікаму, мэмарыяльныя дошкі Кастусю Каліноўскаму й Тадэвушу Касцюшку. Вуліцам вярталіся гістарычныя назвы... Фэстывалі, выставы, пленэры, канцэрты, адкрыцьцё й пашырэньне музэяў. Горадню па праву ў тыя часы называлі культурнай сталіцай краіны. Вернікам былі вернутыя ўсе храмы, пратэстанты атрымалі зямлю пад будаўніцтва цэркваў, адкрылася Вышэйшая каталіцкая духоўная сэмінарыя. Прадстаўнік прадпрымальнікаў паўнавартасна ўдзельнічаў у паседжаньнях гарвыканкаму. Незалежная газэта "Пагоня" знаходзілася у адным будынку з гарадзкой уладай. Гэта быў цудоўны час першай беларускай дэмакратыі, час адраджэньня й вялікіх надзей. Як сёньня бачыцца, трохі наіўны час, але прыгожы й сьветлы.



Што лічыць паразай? Галоўнае — тое, што мы прайгралі 1994 год. Дэмакраты ў час вольных выбараў не дамовіліся паміж сабой і прайгралі. Цана гэтай паразы 11 — гадоў застоя, замбаваньня й дэградацыі насельніцтва, самаізаляцыя Беларусі. Пра гэта якраз нельга забыцца.

***4. Што б Вы зрабілі на гэтай пасадзе за апошнія дзевяць гадоў па-іншаму, чымсьці сёньняшняе кіраўніцтва гораду?***

Не зьнішчаў бы, а разьвіваў беларускае школьніцтва й культуру. Дбаў бы пра разьвіцьцё прыватнага бізнэсу. Не руйнаваў бы эфэктыўныя пабрацімскія зносіны з гарадамі Францыі, Нямеччыны, Польшчы, Канады. Адрэстаўраваў бы Каложскую царкву і Стары замак за грошы ЮНЭСКА. Разбураў бы атмасфэру страху й зьнявагі. Падтрымліваў бы грамадзкія ініцыятывы, незалежныя СМІ... Ці варта гэта ўсё пералічваць? У Беларусі створана сістэма, дзе сур'езныя рашэнні прымае адзін чалавек, а мясцовага самакіравання не існуе. Таму я і зышоў з улады па сваёй волі перад другім рэферэндумам.

***5. Ці часта Вы ўспамінаеце пра тыя часы?***

Пастаянна. Удзячны лёсу не за тое, што даў магчымасьць "пáруліць". Улада для мяне — гэта магчымасьць уплываць на лёсы людзей і краіны. Гэта вялікая адказнасьць і шанец зрабіць жыцьцё больш справядлівым і шчасьлівым. У мяне няма неадольнага жаданьня сесьці ў высокае крэсла, але ёсьць пачуцьце місіі й абавязку. Таму я ўдзельнічаю ў прэзыдэнцкай кампаніі.

## Пытаньні Мілінкевічу — пэдагогу:

***1. Вы не лічылі, колькі ў Вас было студэнтаў за тыя 24 гады, што Вы выкладалі ва ўнівэрсытэце?***

Не лічыў. Самому цікава. У сэмэстр: 75/100. 24 гады множым на 2 сэмэстры й на лічбу студэнтаў. Атрымоўваецца ад 3 600 да 4 800. Будзем лічыць — некалькі тысячаў.

***2. Ці ёсьць у Вас асабістае пэдагагічнае крэда?***

Студэнт — гэта перш за ўсё асоба, будучы мой калега. Катэдра, зь якой я чытаю лекцыю, ня робіць мяне лепшым за яго. Кожны дзень я мушу пацьверджваць свае права называцца Настаўнікам. Я абявязаны быць прафэсіяналам. Выхоўваць павінен асабістым прыкладам. Самы значны эфэкт узьдзеяньня на моладзь дасягаецца калі выкладчык — шматбакова адукаваны, інтэлектуальны, маральны чалавек.

***3. Узгадайце, калі ласка, самую запамінальную гісторыю, зьвязаную з Вашымі гадамі працы са студэнтамі.***

Іх было шмат. Распавяду адну. 1978 год. Я — малады выкладнік фізікі ГрДУ, толькі што

# Аляксандра Мілінкевіча

абараніў дысэртацыю. Аказалі давер — увялі ў склад прыемнай Камісіі. У першы дзень экзаменаў перада мной — адзін з абітурыентаў, пачынае адказ. Зь цяжкасцю падбірае словы, нелагічны, увесь чырвоны. Відаць на "тройку" не пацягне. Праўда, задачу фактычна рашыў. Стала ўсе ж шкада хлопца. Пачынаем разам з другім экзаменатарам Леанідам Восінавічам Самойлам распытваць бядачу: што? адкуль? Чаму на фізыку. Ён, апусьціўшы вочы, ціха адказвае, пастаянна збіваецца з рускай на беларускую мову. Пытаемся, што ў школе па фізыцы: меў цьвердую "пяцёрку", толькі вучылі па-беларуску... — "Дык можа Вам лягчэй на ёй, а не па-руску?" — А што, можна???

... Гэта быў бліскучы адказ. Юнак атрымаў "5" і пазней паступіў ва ўнівэрсытэт. Колькі разоў я пазьней думаў: "Божа, што гэта робіцца — беларус на Беларусі вучыцца ў беларускай школе. Затым прыяжджае паступаць у ВНУ і адчувае сябе чужынцам, іншародцам, другагатункавым".

Так ува мне рос пратэст супраць прыніжэньня нашай нацыянальнай годнасьці, умацоўваўся патрыятызм, зьяўлялася жаданьне бараніць справядлівасьць.

***4. Параўнайце, калі ласка, беларускага студэнта 80-х і 2000-х гадоў?***

У 80-х ішла "перабудова" таго, што ў рэшце рэшт аказалася нерэфармавальным. СССР, як імпэрыя, быў на парозе распада. У краіну хлынуў паток інфармацыі. Праўда зьнішчала ілжывыя стэрыятыпы, афіцыйныя догмы. Салодкі вецер пераменаў. Дыхалася ўсё вальней, моладзь адчувала непазьбежнасьць вялікіх зьменаў. У вялікіх гарадах утвараліся, як тады казалі, нефармальныя аб'яднаньні. У Горадні гэта быў клюб "Паходня" на чале з маім сябрам і настаўнікам па краязнаўстве прафэсарам Міхасём Ткачовым. Сябры клюбу — ў большасьці студэнты. Усе хочуць ведаць праўду пра нашую гісторыю, культуру, мову. Газэта "Гарадзенскі ўнівэрсітэт" друкуе артыкулы, якія сёньня зьмесціць не ўсялякая незалежная газета з прычыны самацэнзуры. У актавай зале універсітэта — капуснікі, КВЗ, дзе студэнты разам з выкладчыкаммі адпускалі жартачкі, якія не трэба было абмяжоўваць з ідэалагічных пазіцый.

Я ўжо некалькі гадоў ня маю магчымасьці выкладаць ва ўнівэрсытэце. Таму ня так добра адчуваю сёньняшнюю атмасфэру ў іх. Нядаўна ехаў у Менск на сваёй машыне й падвозіў напярэдадні 1 верасня студэнта аднаго з прэстыжных ВНУ. Выдатнік, разнастайны адукаваны малады чалавек. Першае, што ён распавёў: "Вучыцца больш-менш цікава, але еду, як у няволю, у інтэрнат, як — у казарму. У дэканат лепш не зьвяртацца: за чалавека не лічаць, прыніжаюць. Ідэалёгіяй забадалі. Самых цікавых выкладнікаў, што дазвалялі сабе гаварыць праўду пра Беларусь, звольнілі. У інтэрнаце камэндант патрабуе пісаць адзін на аднаго даносы. Па калідорах увечары шпацыруюць БРСМаўскія патрулі, што дбаюць аб маралі й чысьціні тумбачак. Пасьля канікулаў у студэнтаў запатрабавалі пашпарты і адлічылі тых, хто езьдзіў на канікулах на заробкі ў ЗША. Бо не было дазволу міністра". Канешне, есьць у жыцьці такіх маладых людзей, як мой спадарожнік і прыемныя вясёлыя моманты. Не ўсё ж толькі змрочнае. Але большасць з іх могуць так і не адчуць, што ёсьць вольнадумныя свабодныя студэнцкія гады.

6. Што, на Вашую думку, неабходна рэфармаваць, мяняць у вышэйшай школе ў Беларусі?

Вярнуць у ВНУ дух вольнасьці, плюралізму, самакіраваньня, канкурэнтнасьці ідэяў. На гарматны стрэл прагнаць адтуль ідэалогію, ніякіх прымусовых разьмеркаваньняў. Па сутнасьці, нашая вышэйшая школа мае нямала добрых традыцыяў. Ёй не хапае прагматычнасьці, дастасаванасьці да сучаснага жыцьця. Неабходна спалучыць сёньняшні высокі ўзровень тэарэтычных ведаў студэнтаў з практычнымі, прыкладнымі навыкамі.

Вельмі важна зрабіць вышэйшую адукацыю рэальна даступнай, каб кожны незаможны, але здольны малады мог яе атрымаць.

## Пытаньні Мілінкевічу — навукоўцу

***1. Перакладзіце, калі ласка, на "чалавечую мову" назву Вашай кандыдацкай дысэртацыі?***

Яна носіць назву "Мэханізмы генэрацыі звыш моцных лязэрных імпульсаў". Праца прысьвечана вывучэньню фізычных працэсаў, якія дазваляюць ствараць лязэры з імпульсамі, што доўжацца мільённую частку мільённай часткі сэкунды. Я ганаруся, што рабіў гэтую працу ў Інстытуце фізікі АН БССР. Гэта быў адзін з найлепшых фізычных цэнтраў у СССР. Дарэчы, ён быў у пэўным сэнсе й цэнтрам вальнадумства ў тыя часы.

***2. Ці засталося пасьля Вашага ад'езду нешта ў альжырскай фізыцы? Што Вам удалося за час працы там, а што не ажыцьцявілася?***

Праца ў Альжыры — цудоўная прыгода, якую падарыў мне лёс. Гэта даволі багатая краіна з унівэрсытэтамі сучаснага ўзроўню. Я кіраваў катэдрай, дзе працавалі навукоўцы з Францыі, Германіі, Польшчы, Румыніі. Многа падарожнічаў. Тыя гады змянілі моцна мае разуменне сьвету, ладу жыцьця, каштоўнасьцяў. Без такіх пераўтварэньняў, магчыма, я б ня стаў палітыкам сёньня. Які сьлед пакінуў? Я больш за паўтары тысячы студэнтаў навучыў ня толькі рашаць фізічныя задачы, але і ўзаемнай павазе, дабрыні, творчасьці.

***3. Беларуская фізыка зараз канкурэнтаздольная у свеце?***

Зараз усё менш і менш. Мы страчваем свой патэнцыял, які быў вельмі высокі ў савецкія часы. Мноства таленавітай моладзі ад'ехала за мяжу. "Перабудова" і "сувэрэнітэт" — не прычыны гэтага. Вінаватая — дзяржаўная палітыка.

***4. Як Вы ўспрымаеце рэформы ў акадэмічнай навуцы ў Беларусі ў апошнія 4 гады?***

Як шкодныя. Нельга падыходзіць да ацэнкі навукі паводле вытворчага прынцыпу прыбытку і рэнтабэльнасці. Немагчыма кіраваць навукай з Адміністрацыі прэзідэнта.

***5. Уявіце сабе: Вы — старшыня прэзыдыюму Акадэміі навук Беларусі. Вашы першыя крокі?***

Акадэмічнай навуцы трэба вярнуць самакіраваньне й аўтаномію. Разьвіваць неабходна і прыкладныя навукі, і фундамэнтальныя. Адмяніць фінансаваньне Акадэміі навук па рэшткавамупрынцыпу.

## Пытаньні Мілінкевічу — чалавеку:

***1. Што Вы распавядаеце Вашым знаёмым з-за мяжы пра жыцьцё ў Беларусі?***

Я вельмі люблю нашу Беларусь. Пра маю родную Гародню магу распавядаць гадзінамі. Я неблагі экскурсавод. Замежнікам часцей за ўсе цікава, як гэта мы церпім такую ўладу, чаму людзі маўчаць і не адстойваюць сваю годнасьць. У мяне ёсьць адказы на гэтыя пытаньні і яны дадаюць аптымізму слухачам.

***2. Да якога калена Вы ведаеце сваіх продкаў, і, калі Вас будуць згадваць нашчадкі, дык пра што б Вы хацелі, каб яны гаварылі ў дачыненьні да Вас?***

Продкаў ведаю да сёмага калена. Яны былі вольнымі людзьмі, патрыётамі Бацькаўшчыны. Што тычыцца маей асобы, што я б хацеў, каб мае нашчадкі бачылі мяне мужным, справядлівым і шчодрым. Каб лічылі за гонар насіць прозьвішча нашага роду.

***3. Калі казаць пра Вашых сыноў, дык чым у першую чаргу Вы ганарыцеся ў дачыненьні да кожнага з іх?***

Мае сыны — Аляксандр і Вітаўт маюць адлаведна 30 і 16 гадоў. Старэйшы — юрыст, малодшы вучыцца ў школе. Гэта чулыя, адкрытыя добрыя людзі. У іх многа сяброў, яны любяць сваю радзіму й не зьбіраюцца ад'яжджаць зь яе.

***4. Выраз "Жыве Беларусь" — гэта для Вас...***

Для мяне Беларусь, як родны край, абсалютная каштоўнасьць. Калі мы сёньня кажам "жыве", то ў гэтым слове непакой. Нам ня толькі трэба зрабіць яе дэмакратычнай і свабоднай, але й захаваць як незалежную дзяржаву.

***5. Амаль 10 мільёнаў суграмадзянаў... Што б можна было сказаць, каб тое было цікавае кожнаму з іх?***

Мы — адукаваны й працавіты народ. Нам ня годна жыць у страху й хлусьні. Мы вартыя жыць у справядлівасьці й дабрабыце. Наш лёс і лёс нашых дзяцей — у нашых руках.



Валянціна ТРЫГУБОВІЧ

# Чалавек беларусацэнтрычнага мысьленьня

*выступ на Кангрэсе дэмакратычных сілаў 2 кастрычніка 2005 г.*

Шаноўнае спадарства! Сярод нас, я ўпэўнена, ёсьць людзі, якія ўжо дакладна ведаюць, за каго з сёньняшніх кандыдатаў яны будуць галасаваць. Гэтым людзям прасьцей – іх чакае толькі фармальная працэдура. Але шмат хто ў зале знаходзіцца ў стадыі пакутлівага роздуму і выбару... Каго? Хто будзе найбольш адпаведны на той цяжкай дарозе да мільёнаў людзкіх розумаў і сэрцаў? Хто годны пасады, ад якой у нашым патрыярхальным грамадзтве залежыць так шмат... Амаль усё.

Стэрэатыпнае жаданьне многіх маіх субяседнікаў, простых людзей, так бы мовіць, выказанае апошнім часам – трэба, каб гэты чалавек быў больш красамоўны, чым ягоны папярэднік, больш артыстычны, больш эмацыянальны... А навошта? Хіба мы выбіраем гарманіста для калгаснай вечарынкі? Ці мелі мы – грамадзтва, дзяржава – вялікі набытак ад красамоўства, папулізму, мадуляцый голасу з тэлеэкрана? У сучасным сьвеце, у сучаснай палітыцы гэта ўжо даўно стала другасным. Норма сёньня, калі прамовы пішуць спічрайтары, пасяўной займаюцца людзі, якія гаспадараць на ўласнай зямлі, а тэлебачаньне не паўтарае савецкі серыял: "всё о нем" і крышачку пра надвор'е.

Нам патрэбны чалавек беларусацэнтрычнага мысленьня. Каб усё, што адбываецца на планэце Зямля, ён ацэньваў праз інтарэсы сваёй краіны. Важна гэта для беларусаў ці можна абмінуць? Выгадна гэта для эканомікі краіны ці варта шукаць іншыя варыянты? Наколькі прывабна мы выглядаем на сусветных форумах, выставах, алімпіядах? Як пачуваем сябе ва ўласнай хаце? Чалавек, якога мы абяром, павінен сфармаваць каманду ідэйных аднадумцаў – і даць ёй волю ў працы. Ладзіць/радзіць з краінамі-суседзямі й не ісьці на канфрантацыю з міжнароднай супольнасьцю ды вядучымі дзяржавамі сьвету. Па-сапраўднаму клапаціцца пра людзей сваёй краіны: найперш даць ім магчымасьць працаваць на поўную сілу і карыстаць з плёну гэтай працы.

Значыць, чалавек гэты мае быць па-сучаснаму адукаваны, з пачуцьцём уласнай годнасьці, камунікабэльны, абазнаны ў рэальным жыцьці іншых краінаў, здольны слухаць спэцыялістаў і ўласную жонку, прымаць узважаныя рашэньні, з пэўным вопытам адміністрацыйнай працы. У ягоным сэрцы, у ягонай сьвядомасьці павінна жыць Беларусь – яе мова, гісторыя і культура, а не проста вясковае й гарадзкое насельніцтва, тэрыторыя паміж Польшчай і Расеяй, кавалак постсавецкай прасторы.

Гэтыя мае сціслыя азначэньні не на пустым месцы паўсталі. У мяне была магчымасьць назіраць за многімі вядомымі палітыкамі, эўрапейскімі ў першую чаргу, на розных імпрэзах і сустрэчах. І шматгадовая праца над даведнікам "Хто ёсьць хто ў Беларусі" не прайшла марна... Паверце жаночай назіральнасьці! Тыдні два назад выпала быць на З'ездзе ў Гнезна, сярод удзельнікаў якога быў экс-канцлер Нямеччыны Гельмут Коль. Палітык, які асягнуў сваю мэту – зруйнаваў берлінскі мур, злучыў падзеленую Нямеччыну ў адну краіну. Ён разумее вартасьць зробленага і ганарыцца гэтым. Але ў ягоных выступах адсутнічаў займеннік "я". Увогуле не было славалюбства. Толькі жывыя і цікавыя разважаньні аб надзённых праблемах Эўропы, аб тым, што трэба зрабіць дзеля эўрапейцаў. Хрысьціянства і любоў да роднай зямлі па-ранейшаму яго натхняюць.

Варта і нам, беларусам, адвечныя, кансэрватыўныя каштоўнасьці зрабіць нормай штодзённага жыцьця. З заяўленых на Кангрэсе кандыдатаў найбольш гатовы да такой працы Аляксандр Мілінкевіч. Ён разважны і адказны, цягавіты і гаспадарлівы, шануе традыцыі і адкрыты да новых павеваў, умее годна камунікаваць з рознымі людзьмі... Жонка – яго разумная і надзейная памочніца. Гэта велізарны плюс. Аляксандр Мілінкевіч найбольш адпавядае патрэбам сучаснай Беларусі, гатовы ахвярна працаваць дзеля яе. І я заклікаю ўдзельнікаў Кангрэсу прагаласаваць менавіта за яго.

Алесь Міхалевіч

# Трапны выбар...

*/пачатак на старонцы 2/*

Да таго ж яго голас проста магічна дзейнічае на жанчын, а ад іх шмат у чым залежыць лёс выбараў. Ды й нашаму кандыдату проста не дадуць прамаўляць па радыё ці тэлебачаньні, хіба што замежным. А замежнымі мовамі наш кандыдат валодае, і ўжо цяпер замежныя аўтарытэтныя выданьні называюць яго "новым лідэрам нацыі".

Усе пералічаныя недахопы Мілінкевіча характарызуюць яго як нармальнага чалавека, такога, які патрэбны Беларусі.

Калі ўсе партыі "Пяцёркі" пачалі вылучэньне на пасаду "адзінага" сваіх старшыняў, Вінцук Вячорка меў мужнасьць і палітычную дальнабачнасьць саступіць сваё месца кандыдату пазапартыйнаму. І на гэтым выйграў як наш Старшыня, так і ўся наша партыя. Гэта й ёсьць праявай рэальнай кааліцыі, якая падтрымлівае чалавека нашых нацыянальных поглядаў.

Прэзыдэнт, які прыйдзе пасьля Лукашэнкі будзе павінны зрабіць дзьве асноўныя рэчы: гарантаваць незалежнасьць Беларусі й вярнуць нашую краіну на шлях дэмакратычнага разьвіцьця. А пасьля саступіць сваё месца палітыкам. А самому застацца сьветлым сымбалем, такім як Вацлаў Гавэл ці Лех Валэнса. І з наяўных патэнцыйных кандыдатаў толькі Мілінкевіч здольны зрабіць неабходную працу, а пасьля дабраахвотна сысьці.

У 2001 годзе, калі Мілінкевіч быў кіраўніком штаба Сямёна Домаша я запытваўся: а чаму не балятуецца сам Мілінкевіч? Але ў дэмакратычным лягеры тады існавала думка, што толькі чалавек з вышэйшай намэнклятуры здольны перамагчы Лукашэнку. Сакратарскі досьвед у абкамах КПСС лічылася плюсам, з чым я ніяк ня мог пагадзіцца.

Мы навучыліся на памылках, і ўпэўнена можам сказаць, што толькі свой чалавек, які гатовы ісьці да канца, прывядзе нас да перамогі. І калі мяне пытаюцца, ці ня будзе "праект Мілінкевіч" такім самым, як "праект Домаш", я адказваю: "Мілінкевіч" – гэта не праект, гэта адказ незалежнага беларускага грамадзтва на тую ненармальнасьць, якая творыцца ў нашай краіне. А незалежнае беларускае грамадзтва, аб'яднаўшыся, абавязкова пераможа. І гісторыя неўміручага гуманітарнага ліцэя нас у гэтым пераконвае.




# Канцэпцыя Аргкамітэту моладзевай арганізацыі Партыі БНФ

Галоўнымі задачамі Аргкамітэту ёсьць правядзеньне Ўстаноўчага сходу й наладжваньне працы моладзевай арганізацыі Партыі БНФ – "**Моладзь БНФ**" (далей МБНФ).

У кампэтэнцыю Аргкамітэту па стварэньні Моладзі БНФ уваходзіць: стварэньне канцэпцыі МБНФ, праграмы й рэглямэнту, вызначэньне задачаў, напрамкаў дзейнасьці МБНФ, правядзеньне Устаноўчага сходу арганізацыі. Права распускаць арганізацыю мае Сойм Партыі БНФ.

**Мэта:** рэальнае яднаньне моладзі вакол Партыі БНФ, яе каштоўнасьцяў і дзейнасьці. Вяртаньне ПБНФ статусу галоўнага палітычнага і культурніцкага асяродку для ўсіх зацікаўленых людзей.

**Бягучая задача**: стварэньне напярэдадні выбараў моцнай моладзевай каманды, якая будзе шчыльна працаваць са старэйшымі сябрамі ПБНФ, магчыма, у штабе адзінага кандыдата.

**Тэрмін:** Аргкамітэт на працягу трох месяцаў (да студзеня) рыхтуе Устаноўчы сход, які афіцыйна запачаткоўвае дзейнасьць МБНФ. Да гэтага часу сябры Моладзі БНФ займаюцца каардынаваньнем усёй наяўнай і патэнцыйнай моладзі вакол арганізацыі.



**МБНФ** будзе моладзевай палітычнай арганізацыяй з уласнай структурай, падпарадкаваная Партыі БНФ. МБНФ зьяўляецца моладзевай групай ПБНФ, гуртуе вакол сябе маладых сябраў ПБНФ, людзей, прыхільных да каштоўнасьцяў ПБНФ, нацыяналізму й ідэалёгіі кансэрватызму.

**Кантынгент:** зацікаўленая партыйная і непартыйная палітычна актыўная моладзь 16-25 гадоў.

**Структура**

Сойм Партыі БНФ зацьвярджае сьпісам склад Аргкамітэту, якому даручаецца стварэньне моладзевай прыпартыйнай арганізацыі МБНФ. Гэтыя людзі рыхтуюць Устаноўчы сход і канцэпцыі будучага функцыянаваньня арганізацыі.

Кіруе Аргкамітэтам, а пасьля й усёй арганізацыяй, **Рада**, складзеная з кіраўнікоў аддзелаў, плюс **старшыні** й яго **намесьніка**. Кіраўнікі аддзелаў арганізуюць працу ў сваім накірунку і трымаюць штотыднёвую справаздачу перад Радай МБНФ. Сябры МБНФ, уступіўшы ў арганізацыю, накіроўваюцца ў той ці іншы аддзел паводле зацікаўленасьці.*(гл. схему залежнасьці >)*






## Як функцыянуе

Моладзь БНФ будзе адкрытай арганізацыяй. Яе сябрам можа стаць любы чалавек 16-25 гадоў, які запоўніў анкету сябра МБНФ. Яго сяброўства заканчваецца ў 25 гадоў (ці раней) пераўтварэньнем з моладзевага актывіста ў партыйнага функцыянэра. У 18 гадоў сябры МБНФ па жаданьні ўступаюць у ПБНФ, актыўна прымаюць удзел ва ўсіх мерапрыемствах Партыі БНФ. Кіраўнікі аддзелаў, мясцовых суполак, сябры Рады абавязкова павінныя зьяўляцца сябрамі ПБНФ і прымаць удзел у паседжаньнях мясцовых радаў. Сябры МБНФ, якія зьяўляюцца сябрамі ПБНФ, могуць удзельнічаць у выбарах як кандыдаты Партыі БНФ.

Сябры МБНФ актыўна працуюць у складзе Моладзевага штабу адзінага дэмакратычнага кандыдата, падтрыманага Партыяй БНФ, – Алеся Мілінкевіча.

## Пляцоўка

Пляцоўка для дзейнасьці МБНФ – сядзіба ПБНФ, у рэгіёнах – мясцовыя сядзібы партыі. МБНФ як структура Партыі БНФ трымаецца на яе рэсурсах, але імкнецца мець уласныя крыніцы матэрыяльнай падтрымкі.

## Пэрспэктыва

Многія адарваныя структуры Маладога фронту могуць з часам прымкнуць да структураў ПБНФ, а іх сябры – да сябраў Моладзі БНФ.

## Разнастайнасьць накірункаў працы

МБНФ выконвае ролю "мастка", зьвязкі паміж старэйшымі й маладзейшымі актывістамі ПБНФ. Апошнія часта не знаходзяць сваю нішу ў партыйных структурах і аказваюцца па-за палітыкай альбо ў іншых арганізацыях. Праз МБНФ трэба стварыць своеасаблівыя падрыхтоўчыя курсы для моладзі дзеля ейнага лягічнага ўліцьця ў дарослую партыйную працу. Менавіта таму МБНФ ставіць акцэнт на **палітычнай адукацыі** сваіх сябраў.

МБНФ трымае ўласную сетку **партнэраў за мяжой** (Літва, Польшча, Швайцарыя), разам зь якімі рэалізуе дзейнасьць і супольныя праекты.

Прыцягваньне моладзі да дзейнасьці можа адбывацца праз разнастайныя праекты. Ня трэба абмяжоўвацца палітычнымі акцыямі і кампаніямі. Сыходзячы з гэтага мы вызначылі *нацыянальна-патрыятычны, тэатральна-музычны, адукацыйны, міжнародны, спартовы* пастаянна дзейныя накірункі працы, каб кожны ахвотны меў магчымасьць самарэалізацыі ў МБНФ.

Разгледзім асобна, што зь сябе ўяўляе кожны аддзел. Сукупнасьць дзейнасьці аддзелаў і зьяўляецца **дзейнасьцю МБНФ**



## Сакратарыят МБНФ

**(канцэпцыю склаў Алесь Шарафановіч. значна скарочана.)**

**Мэты:**

1. Супрацоўніцтва і каардынацыя дзеяньняў усіх аддзелаў МБНФ;
2. Каардынацыя і дапамога ў арганізацыі і разьвіцьці рэгіянальных структураў МБНФ;
3. Выкананьне ролі "аддзелу кадраў";
4. Вядзеньне дакумэнтальнай справаздачы дзейнасьці ўсёй структуры МБНФ.

**Накірункі дзейнасьці:**

*Канцылярскі* займаецца напісаньнем, сыстэматызацыяй, захоўваньнем дакумэнтацыі (пратаколаў паседжаньняў, праграмаў дзейнасьці і інш.), вядзеньнем фінансавага ўліку і вядзеньнем ўліку новых сябраў арганізацыі.

*Стратэгічны* займаецца складаньнем раскладу працы аддзелаў, вырашэньнем арганізацыйных пытаньняў (напрыклад, пошукам памяшканьня для правядзеньне сходу), інфармаваньнем сябраў МБНФ пра мерапрыемствы, плянаваньнем паседжаньняў, складаньнем праграмаў паседжаньняў, сустрэчаў, сходаў.

*Каардынацыйны* займаецца каардынацыяй дзеяньняў усіх аддзелаў, аналізам, статыстыкай іназіраньнем за выкананьнем рашэньняў і пратаколаў, прынятых на паседжаньнях аддзелаў ці Рады МБНФ, каардынацыяй і дапамогай ў арганізацыі і разьвіцьці рэгіянальных структураў МБНФ.

## Прапанаваны склад Аргкамітэту

*Старшыня* – **Алесь Каліта,**
*намесьнік старшыні* – Ігар Казьмярчак
*кіраўнікі аддзелаў*:

1. **сакратарыят** – Алесь Шарафановіч
2. **па сувязях з грамадзкасьцю** – Макар Ваўчок
3. **культурніцкі** – Сяржук Семянюк і Яўген Неткачэў
4. **навучальны** – Франак Вячорка
5. **спартовы** – Яўген Пугач
6. **рэдакцыйная рада газэты МБНФ** – Каця Маркоўская
7. **міжнародны** – Антось Юркавец




# Рэдакцыйная рада газэты «Моладзь БНФ»

**Газэта Моладзі БНФ павінна мець інфармацыйна-адукацыйны характар і збольшага падпарадкоўвацца прынцыпу пераемнасьці з афіцыйным друкаваным выданьнем Партыі БНФ "Навіны БНФ".**

**Мэта**

Асноўная мэта газэты "Моладзь БНФ" – данясеньне да маладога пакаленьня беларусаў альтэрнатыўнай дзяржаўным СМІ інфармацыі пра палітычнае, сацыяльнае, культурнае жыцьцё краіны.

**Задачы**

1. інфармаваць моладзь пра значныя падзеі, партыйнае жыцьцё;
2. мабілізаваць моладзь ў неабходных сытуацыях;
3. быць інфармацыйным каналам навучальнай, агітацыйнай, праграмнай ды іншых камісіяў;
4. распаўсюджваць тэзы паседжаньняў дыскусійнага клюбу;
5. рабіць прамоцыю лідэрам Партыі БНФ сярод моладзі;
6. адукоўваць, а таксама натхняць людзей да працы, спрыяць вызначэньню іх асабістых палітычных каштоўнасьцяў, папулярызацыі й прамоцыі франтаўскіх традыцыяў і дасягненьняў, кансэрватыўных дэмакрытычных каштоўнасьцяў;
7. служыць дыскусійнаю трыбунаю для маладых франтаўцаў, якія маюць што сказаць сваім раўналеткам;
8. анансаваць значныя падзеі (канцэрты беларускіх гуртоў, палітычныя і грамадзкія акцыі, імпрэзы, вечарыны ды інш.).

**Аўдыторыя выданьня**

моладзь Партыі БНФ;

удзельнікі дыскусійнага клюбу;

незаангажаваныя ў палітыцы маладыя людзі, што наведваюць мерапрыемствы, якія ладзяцца на Сядзібе Партыі БНФ (напрыклад, наведнікі Фан-клюбу беларускай музыкі);

знаёмыя студэнты ВНУ, каледжаў, вучні старэйшых клясаў сярэдняй школы;

выпускнікі й навучэнцы Беларускага гуманітарнага ліцэю імя Якуба Коласа;

рэгіягальная моладзь.

**Месцы распаўсюду**

Сядзіба Партыі БНФ;
Сядзіба ТБМ;
унівэрсытэты;
школы;
рэгіёны.

**Пэрыядычнасьць**

2 разы на месяц.

Дзень выхаду першага нумару – 24.10.2005.

З прычыны таго, што для газэты будуць назапашвацца розныя па тэматыцы матэрыялы, мае сэнс выпускацца два гатункі газэты "Моладзь БНФ:

**"Соймавы"нумар** (укладыш да газэты "Навіны БНФ") – выходзіць да паседжаньня Сойму Партыі БНФ, накіраваны пераважна на рэгіянальную моладзь (разам з сябрамі сойму нумар будзе разьязджацца па рэгіёнах), утрымлівае сур'ёзныя праблемныя артыкулы, інтэрвію са старэйшымі франтаўцамі, аналітычныя матэрыялы.

**Звычайны нумар** – выходзіць праз 2 тыдні пасьля паседжаньня Сойму Партыі БНФ, да паседжаньня Моладзевай Камісіі, накіраваны на менскую моладзь, утрымлівае пераважна інфармацыю пра менскія падзеі, тэматычныя рубрыкі (калёнкі); тэзы паседжаньняў дыскусійнага клюбу.

**Аб'ём**

8 палосаў фарматам А4.

**Структура рэдакцыйнай калегіі**

Кіраўнік Рэдакцыйнай рады
Галоўны рэдактар
Вярстальшчык
Адказныя за напісаньне артыкулаў і інтэрвію
Карэктар
Фотакарэспандэнт

**Каця Маркоўская,**
скарочана

---

**Макар Ваўчок**

# Аддзел па сувязях з грамадзкасьцю

*(значна скарочана)*

**Важнасьць** аддзелу па сувязях з грамадзкасьцю сёньня разумее кожны. Безь яго дзейнасьці немагчыма існаваньне ніякага палітычнага аб'яднаньня, якое мае на мэце папаўняць свае шэрагі новымі людзьмі. Імідж МБНФ ляжыць на плячах гэтага аддзелу. Менавіта ад яго залежыць, як будзе ўспрымацца людзьмі тая ці іншая акцыя, заява ці пастанова МБНФ, ці яны зацікавяцца і, магчыма, далучацца. А ў нашых варунках кожны чалавек каштоўны

## Мэта

Асноўнаю мэтаю PR аддзелу *(аддзел па сувязях з грамадзкасьцю, далей PR)* зьяўляецца дасягненьне максымальнай вядомасьці й падтрыманьне станоўчага іміджу Партыі БНФ і МБНФ сярод маладой часткі грамадзтва шляхам выкарыстаньня самых сучасных PR-тэхналёгіяў.

## Задачы

1. Распрацоўка лёзунгаў, заклікаў, сьлёганаў, лагатыпаў, сымболікі – усяго, што датычыць іміджу Моладзі БНФ.
2. Дызайнэрскае афармленьне, перадпрынт падрыхтоўка прадукцыі (улёткі, буклеты, брашуры). Арганізацыя распаўсюду, разьвешваньня, расклейкі зробленых матэрыялаў
3. Распрацоўка і выданьне анкетаў на ўступленьне ў МБНФ. Іх распаўсюд
4. Выпрацоўка фармату, зьместу й выгляду вулічных і нявулічных акцыяў, праектаў так, каб яны мелі найболшую інфармацыйную эфэктыўнасьць.
5. Стварэньне Сайту МБНФ зь інфармацыяй пра арганізацыю й аўтаматычнай стужкай навінаў, якую сябры Рады змогуць абнаўляць самастойна
6. Правядзеньне сумесна з Адукацыйным аддзелам вузкапрофільнай адукацыі па PR-тэхналёгіях, дызайну, маркетынгу. Пасьля заканчэньня адукацыйнага пэрыяду ўсе слухачы курсу здаюць іспыт. Толькі тыя навучэнцы, якія пасьпяхова здалі іспыт, атрымаюць допуск да дзейнасьці у PR-аддзеле ў якасьці яго сябраў.
7. Правядзеньне сацыяльных дасьледаваньняў і апытаньняў дзеля высьвятленьня ступені даверу грамадзянаў да Партыі БНФ і ўзроўню пазнавальнасьці брэнду МБНФ. Правядзеньне кампаніі "Пытаньне- Адказ", суб'ектамі каторай зьяўляюцца як насельніцтва краіны ў цэлым, так і кіраўніцтва ПБНФ.
8. Правядзеньне маніторынгу моладзевай думкі ў самой партыі і па-за яе межамі.

**Структура**

Будуць створаны наступныя суполкі: дызайнэрская альбо мастацка-афармленчая (якая займаецца распрацоўкай лягатыпаў, заклікаў, сьлёганаў і інш.), суполка па распаўсюду, магчыма стварэньне іншых суполак са згоды кіраўніка аддзелу.




Яўген Пугач

# Спартовы аддзел

**Мэта:** фізычнае выхаваньне сябраў і папулярызацыя ідэяў БНФ, прыцягненьне моладзі праз спорт да палітыкі.

**Задачы:**

1. *Карпаратыўны адпачынак сябраў МБНФ*, падчас якога адбываюцца нефармальныя сустрэчы нашых сябраў (асабліва гэта важна для моладзі з рэгіёнаў), іх яднаньне і выпрацоўка каманднага духу. Моладзь зараджаецца энэргіяй, якая так неабходна ў нашай дзейнасьці. На карысьць нам ідзе чаргаваньне працы з адпачынкам дзеля захаваньня і павелічэньня «эфэктыўнасьці».
2. *Арганізацыя спартовых мерапрыемстваў з запрашэньнем непартыйнай моладзі*, падчас якіх мы, па-першае, зоймём гэтую моладзь карыснай для іх справай; па-другое, створым ёй умовы для адпачынку, фізычнага выхаваньня і проста дамо магчымасьць весела правесьці свой вольны час.
3. *Прамоцыя беларускай мовы і нацыянальных сымбаляў*. Кожнае мерапрыемства будзе адбывацца ў беларускамоўным асяроддзі пад нацыянальнымі сымбалямі, што паспрыяе прамоцыі беларускай мовы. Моладзь у будучыні ня будзе цурацца сваіх нацыянальных сымбаляў, будзе ганарыцца сваім знаёмствам з «БНФаўцамі» і, магчыма, захоча афіцыйна стаць часткай нас. Гэтыя маладыя людзі будуць распавядаць сваім знаёмым, сябрам, сваякам, што нядаўна адпачывалі разам з файнымі хлопцамі і дзяўчатамі. І вядома, хтосьці зь іх далучыцца да нас.

Франак Вячорка

# НАВУЧАЛЬНЫ АДДЗЕЛ

**Навучальны аддзел** ёсьць стратэгічным аддзелам МБНФ. Ён нясе адказнасьць за выкананьне аднаго з двух найважнейшых накірункаў дзейнасьці арганізацыі – **палітычная адукацыя з прыцягненьнем моладзі да каштоўнасьцяў Партыі БНФ.**

***Задачы аддзелу***

1. Палітычная адукацыя сябраў МБНФ
2. Выхаваньне кансэрватыўных каштоўнасьцяў
3. Стварэньне адзінай каманды МБНФ, прыцягненьне сябраў МБНФ да каманднай арганізацыйнай працы
4. Праца з новымі сябрамі МБНФ, уключэньне іх у курс справы
5. Вызначэньне кожнаму сябру МБНФ профілю дзейнасьці ў арганізацыі і накіраваньне ў адпаведную камісію
6. Па выхадзе з МБНФ, сумесна з Камісіяй партыйнага навучаньня, вызначэньне чалавеку профілю дзейнасьці ў Партыі БНФ, адпаведна яго пажаданьням і здольнасьцям
7. Абмен досьведам паміж дасьведчанымі фронтаўцамі й моладзьдзю, паміж актыўнымі маладзёнамі.
8. Арганізацыя Дыскусійнага клюбу, адкрытых лекцыяў на стратэгічныя тэмы, напрыклад, “Што ёсьць Партыя БНФ”, “Што ёсьць ідэалёгія? Што ёсьць кансэрватызм?”
9. Прэзэнтацыя МБНФ новым і патэнцыйным сябрам арганізацыі.

Дзейнасьць

- Арганізацыя **прэзэнтацыі Партыі БНФ** для моладзі ў выглядзе нефармальнай сустрэчы, з патлумачваньнем фронтаўскіх каштоўнасьцяў, расповедам пра гісторыю БНФ, яго лідэраў/ З удзелам кіраўніцтва Партыі, сябраў Камісіі партыйнага навучаньня. Для новых і патэнцыйных сябраў МБНФ. Штомесяц. У Менску і рэгіёнах
- **Трэнінг на тэму “Ідэалёгіі”:** што ёсьць кансэрватызм, чым ён розьніцца ад лібэралізму. Якія каштоўнасьці кансэрватызму й іншых ідэялёгіяў. Гэта можа зрабіць Аляксей Крукоўскі, Аляксей Янукевіч (паводле ўзору нядаўніх рэгіянальных сустрэчаў з актывістамі моладзевага руху Беларусі). У Менску і рэгіёнах
    - Выданьне **кішэннага падручніку па асновах паліталёгіі**, з падрабязным тлумачэньнем, што ёсьць кансэрватызм. Сьнежань.
- **Сэмінары на палітычныую тэматыку**. Фонд імя Льва Сапегі правядзе трэнінг па мясцовым самакіраваньні, аб’яднаньне “РЭЙ” можа – па палітычным лідэрстве. Тэмы “Вядзеньне выбарчай кампаніі”, “Public relations у палітыцы” і інш., з удзелам трэнэраў і экспэртаў. У Менску і рэгіёнах
- Удзел у **Эўрапейскім моладзевым парлямэнце**. Прэзэнтацыя на ім сваёй арганізацыі з мэтай наладжваньня новых кантактаў і прыцягненьня новых сябраў да МБНФ.
- **Аднаўленьне кантактаў з партнэрамі** ў Літве («Маладыя кансэрватары»), разьвіцьцё супрацы з польскімі калегамі (“Малады цэнтрум” і інш), правымі моладзевымі рухамі ва Ўкраіне. Супольныя сэмінары, праекты дзеля абмену досьведам і навязаньня шчыльнейшых кантактаў. Напрыклад, лістапад – Люблін. Сьнежань – Вільня. Падтрыманьне кантактаў са швайцарскай праваабарончай арганізацыяй CODAP, удзел у іх імпрэзах 10 сьнежня ў Жэнэве і Лазане. Адказныя Каця Маркоўская, Франак Вячорка, МакарВаўчок
- **Юрыдычнае навучаньне**. Юрыдычная камісія Партыі БНФ правядзе інструктаж па праўнай тэхніцы бясьпецы для сябраў Моладзі БНФ, прэзэнтацыя Каньспіратару. Сьнежань выдаць юрыдычны дапаможнік для маладых фронтаўцаў, што будзе асабліва актуальна і неабходна напярэдадні выбарчай кампаніі. (Уладзь Лабковіч, Алесь Каліта)
- **Моладзевы дыскусійны клюб.** Супольны праект Моладзі БНФ і “Цэнтру Супольнасьць”. Адкрытыя сустрэчы моладзі (15-25 гадоў) з дыскусіяй на вызначаную загадзя актуальную тэму/ Штосераду, 18.00. Адказная Іна Кебікава

# Культурніцкая камісія

*(склалі канцэпцыю Сяржук Семянюк, Яўген Неткачэў, значна скарочна)*

Ня кожны чалавек, які падтрымоўвае погляды Партыі БНФ, хоча займацца палітыкай. Але ня ў якім разе нельга «губляць» гэтых людзей. Вядома, што шмат, калі не бальшыня новых сябраў далучаецца да дзейнасьці менавіта праз культурніцкія імпрэзы ды мастацкія акцыі.

**Мэта:**
Пашырэньне сярод моладзі нацыянальных ідэалаў і каштоўнасьцяў.

Арганізацыя культурніцкага жыцьця МБНФ. Выхаваньне самасьвядомасьці сярод моладзі, любові да Радзімы, мовы, гісторыі і г.д.

Людзі, якія будуць далучацца да Моладзі БНФ, могуць ствараць суполкі «па інтарэсах». Самі людзі павінны ініцыянаваць стварэньне такіх суполак. Умоўна кажучы, калі чалавек захапляецца тэатрам – ён стварае тэатральную суполку/гурток. Рэгулярнымі павінны быць вечарыны: літаратурныя, мастацкія, куды запрашаюцца як вядомыя, так і пачынаючыя літаратары. Важна спрабаваць арганізоўваць выставы, канцэрты (імправізаваныя і ня толькі). Культурніцкая дзейнасьць павінна ўключыць у сябе распрацоўку пэрфомансаў ды мастацкіх акцыяў. Як паказвае досьвед, такія акцыі зьяўляюцца эфэктыўнымі й прыцягваюць «людзей з вуліцы». Нялішнім было б і выданьне літаратурнай газэты, дзе маглі б друкавацца ня толькі сябры партыі, але й звычайная моладзь. Аматары кампутараў могуць займацца перакладамі праграмаў на беларускую мову, стварэньнем сайтаў, кампутарных гульняў ды праграмаў.

Самым актыўным чынам неабходна ўдзельнічаць у адзначэньні важных для Беларусі падзеяў: 8 верасьня, Слуцкі збройны чын, Дзяды, 25 сакавіка і да т.п.

# Неўзабаве зьезд

**Юры ГЕМБІЦКІ, Уладзімер ЛАБКОВІЧ**

17 і 18 сьнежня адбудзецца чарговы зьезд Партыі БНФ і грамадзкага аб'яднаньня БНФ "Адраджэньне". Ён вельмі важны, бо пройдзе напярэдадні прэзыдэнцкай кампаніі, дзе Партыя БНФ бярэ ўдзел як складнік кааліцыі на карысьць адзінага кандыдата — Аляксандра Мілінкевіча.

Партыя плённа спрацавала ўлетку, падчас ладжаньня раённых сходаў, атрымала карысны досьвед. Цяпер гэтую працу трэба арганізацыйна паўтарыць: у межах г.зв. міжраённых (тэрытарыяльных) сходаў абраць дэлегатаў на зьезд. Ён будзе прадстаўнічы, але нешматлюдны. Агулам чакаецца, што ў працы зьезду возьмуць удзел 155 дэлегатаў з усяе краіны.

Не забывайма, што да партыйных захадаў, у прыватнасьці, да зьезду як найвышэйшага партыйнага органу, будзе прыкаваная ўвага міністэрства юстыцыі, бо ўлетку была прынятая новая рэдакцыя закону аб палітычных партыях. Асноўныя выклікі палягаюць у тым, што партыя згубіла афіцыйную рэгістрацыю ў абласных упраўленьнях юстыцыі, і шмат якія рэгіёны на зьезьдзе ня маюць права прадстаўніцтва, бо не пастаўленыя на афіцыйны ўлік. Значыць, будуць усе афіцыйныя структуры.

Варта рыхтавацца да таго, што зьезд пройдзе ў досыць цяжкіх умовах. Партыя, безумоўна, будзе афіцыйна прасіць даць залю для правядзеньня форуму. Але, ведаючы сумны досьвед усіх дэмакратычных партыяў цягам двух апошніх гадоў, вымушаных зьбірацца ў сядзібе БНФ, ня трэба моцна спадзявацца на іншую залю. Сядзіба БНФ у стане, у разе форс-мажору, чарговы раз зьмясьціць дэлегатаў зьезду БНФ "Адраджэньне" і Партыі БНФ. У кожным разе важна, каб зьезд адбыўся арганізавана й спакойна, бо ён стане вялікай партыйнай нарадай перад пачаткам кампаніі, асноўны цяжар якой прыпадзе якраз на нас, фронтаўцаў.

Асноўнае пытаньне зьезду — задачы Партыі БНФ у палітычнай кампаніі 2006 году, а таксама справаздача кіраўніцтва партыі аб зробленай за два гады працы з ацэнкай дзейнасьці кожнага кіраўніка цэнтральнага й рэгіянальнага роўняў. І, натуральна, абраньне старшыні, намесьнікаў і Сойму партыі. Дарэчы, арганізацыйна-праўная камісія выйдзе з прапановамі чарговы раз скараціць колькасьць сябраў Сойму. Нагадаем: у 2001 годзе зьезд зацьвердзіў лічбу 55, два гады таму — 49. Зараз прапануецца скараціць колькасьць сябраў Сойму да 41 чалавека для большай мабільнасьці, эфэктыўнасьці дзеяньня, зручнасьці скліканьня й хуткасьці прыняцьця рашэньняў. Таксама прапануецца паменшыць і колькасьць намесьнікаў — з 4-х да 3-х.

# Талака ў Курапатах

Ціхі й пашанотлівы дзень памяці продкаў Дзяды, які прыпадае на пералом кастрычніка й лістапада, у новай беларускай гісторыі стаўся й днём паклікацьня ў барацьбе за свабоду. Нездарма за царскім часам забаранялі паэму Адама Міцкевіча «Дзяды», сюжэт якой угрунтаваны на беларускай традыцыі ўшанаваньня продкаў. А 30 кастрычніка 1988 году, калі велічнае шэсьце менчукоў да Курапатаў было гвалтам разагнанае савецкай міліцыяй, стала хростам для Беларускага Народнага Фронту.

Сёлета мы ўшануем Дзяды, як заўсёды, годна. У суботу, 29 кастрычніка, а 10-й гадзіне Партыя БНФ ладзіць традыцыйную дзядоўскую талаку ў Курапатах. А 12-й гадзіне на вяршыні курапацкага ўзгорку будзе ўрачыста адкрытая памятная табліца, якую замест скрадзенай вандаламі падрыхтавалі грамадзкая ініцыятыва ў абарону мэмарыялу Курапаты й таварыства «Мэмарыял». 29 і 30 кастрычніка мясцовыя арганізацыі Партыі БНФ ушануюць мясьціны, зьвязаныя з памяцьцю пра бязьвінна пацярпелых ад савецкага рэжыму, у менскіх Лошыцкім яры, у парку Чалюскінцаў, а таксама ў іншых гарадах краіны.

Асаблівае значэньне вонкавых дачыненьняў у дзейнасьці дзяржаўных органаў БНР сёньня абумоўлена дзьвюмя акалічнасьцямі. Па-першае, гэта вынікае з факту дзеяньня дзяржаўных структураў БНР на эміграцыі - у замежжы. Рада БНР выконвае абавязкі Парлямэнту на Выгнаньні, а Прэзыдыюм Рады - абавязкі Ўрада на Выгнаньні. Па-другое, засяроджаньня на вонкавых дачыненьнях вымагае і самая мэта існаваньня Рады БНР сёньня: яна ня ў тым, каб "вярнуцца да ўлады" ў Менску - але каб перадаць свой гістарычны мандат, паўнамоцтвы, дзяржаўную пераемнасьць БНР новай дэмакратычна сфармаванай уладзе ў незалежнай беларускай рэспубліцы. [Варта аддаць належнае мудрасьці Старшыні Рады БНР Я. Сажыча, які адхіліў спробы Пятра Краўчанкі зарганізаваць здачу паўнамоцтваў БНР на карысьць урада Кебіча.] Гэткая акурат мэта вымагае ад Рады БНР і яе Прэзыдыюму ў замежжы спрыяць ва ўсемагчымыя спосабы прыходу адпаведнага кіраўніцтва да ўлады ў Беларусі.

ў 1990-х, ды ў прыцягненьні ўвагі палітыкаў і ўрадоўцаў ЗША (а таксама амэрыканскай і канадыйскай прэсы) да справы абароны незалежнасьці і дэмакратыі Беларусі апошнім часам - вялікая заслуга дзейнасьці Старшыні ды радных БНР у Вашынгтоне ды Атаве. Кааптацыя ў Раду БНР новых сяброў і актывізацыя дзейнасьці Рады ад сярэдзіны 1990-х спрычынілася да аднаўленьня дзейнасьці Рады таксама ў Эўропе. Гэтаму асабліва спрыяла далучэньне прадстаўнікоў "новай" сьвядомай эміграцыі ў краінах Эўразьвязу да старых беларускіх арганізацыяў, што ядналі асобаў на грунце ідэалаў БНР і прызнаньня паўнамоцтваў Рады; у іншых месцах паўсталі новыя арганізацыі на такім грунце.

Сёньня вонкавыя справы вядуцца Радаю БНР і яе Прэзыдыюмам на трох узроўнях. Па-першае, на ўзроўні Старшыні ды Сакратарыяту Вонкавых Справаў. Найноўшым

арганізацыяў, што прызнаюць і падтрымліваюць яе дзейнасьць. Напрыклад, Згуртаваньне Беларусаў Вялікай Брытаніі - адданае ідэалам 25 сакавіка і зважае на палітычны кірунак Рады БНР.

Напрацягу апошніх гадоў у інфармацыйна-прадстаўнічай дзейнасьці і кантактах Рады БНР можна зазначыць некалькі пунктаў

- заахвочаньне міжнародных дзеяньняў дзеля абароны правоў чалавека ў Беларусі;
- давядзеньне на Захадзе ролі расейскага фактару: у Беларусі (ды паўсюль у рэгіёне)



Мікола Пачкаеў

# Голас вольнай Беларусі ў вольным сьвеце.

Гэтак толькі натуральна, што ў шэрагу дзейсных сёньня сакратарыятаў. Гістарычна, міністэрствы Ўраду БНР называюцца "сакратарыятамі"] менавіта Сакратарыят Вонкавых Справаў застаецца найбольш актыўным і мае найбуйнейшы склад сяброў. З прычыны адметнасьцяў дзейнасьці Рады і Ўраду (Прызыдыюму Рады) БНР у Беларусі ды цяпер на Выгнаньні, абавязкі Сакратара Вонкавых Справаў часта сумяшчаў Старшыня - што мае месца і сёньня.

Пачаткова на эміграцыі дзейнасьць кіраўніцтва БНР засяроджвалася ў Эўропе (Каўнас, (Коўна) Прага, Парыж); пэўны час яшчэ працавалі дыпляматычныя, консульскія ды вайскова-дыпляматычныя місіі БНР у эўрапэйскіх краінах (і Турэччыне). У паваенным часе, у дачыненьнях з заходнімі ды эміграцыйнымі ўрадамі аўтарытэту Рады БНР спрыяў таксама факт, што нават пад нацысцкай акупацыяй у Празе Старшыня В. Захарка адмовіўся ад хаўрусу з гітлераўскай Нямеччынай. Да канца 1980-х Рада і Урад БНР на Выгнаньні былі ў шчыльнай супрацы з эміграцыйнымі ўрадамі іншых краінаў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы (нп. у рамках "Парыскай Лігі"). Аднак паколькі пасьля М. Абрамчыка (1903-1970) наступныя старшыні Рады стала знаходзяцца ў краінах Паўночнае Амэрыкі, далей большае разьвіцьцё мелі кантакты ў ЗША і Канадзе. У інфармаваньні грамадзтва ЗША і Канады аб праблемах наступстваў Чарнобылю ў Беларусі

прыкладам гэтага - візыт Высокай дэлегацыі БНР Дэлегацыя на чале са Старшынёй Івонкай Сурвілай ўключала таксама Сакратара Ўнутраных Справа Вячку Станкевіча, Намесьніка Старшыні Сяргея Навумчыка і сябра Сакратарыяту Вонкавых Справаў Міколу Пачкаева] у эўрапэйскія інстытуцыі ў Брусэлі на пачатку кастрычніка. Адбыліся сустрэчы з кіраўніцтвам найбуйнейшых фракцыяў Эўрапэйскага парляманта, дзьвух органаў Эўрапэйскай Камісіі, ды Палітычнага адзьдзелу Офіса Хаў'ера Саляны - Высокага Прадстаўніка Эўразьвязу ў пытаньняў агульнай вонкавай палітыкі ды ў галіне бясьпекі [выканаўчыя воргананы Эўразьвязу міністэрскага ўзроўню].

Па-другое, абавязкі сталага прадстаўніка БНР у паасобных краінах паводле пасады выконвае старшыня мясцовага сэктару Рады - або, з упаўнаважаньня Старшыні, іншы радны. Прыкладам можа служыць дзейнастсць сэктару Рады ў Вялікабрытаніі, што праводзіць актыўную інфармацыйна-прадстаўнічую дзейнасьць на карысьць Рады БНР, яе Прызыдыюма і Старшыні, у стасунках з брытыйскімі палітыкамі і Міністэрствам Замежных Справаў, а таксама амбасадамі шэрагу краінаў у Лёндане.

Па-трэцяе, у паасобных краінах справа "лёббінгу" адпаведна погляду Рады належыць да мясцовых беларускіх асаблівай увагі:

Расея абапіраецца ў сваім уплыве на анты-дэмакратычныя сілы, а таксама пагражае незалежнасьці, ствараючы гэтак патэнцыял буйных узрушэньняў;

- стварэньне крыніцаў аб'ектыўнай інфармацыі для Беларусі;
- заахвочаньне вонкавай падтрымкі дэмакратычнай грамадзянскай супольнасьці і арганізацыяў у Беларусі.
- заахвочаньне стварэньня для беларускай моладзі новых магчымасьцяў знаёміцца з ладам жыцьця ў вольных, дэмакратычных краінах,
- заклік да большай прысутнасьць Эўрапэйскіх інстытуцыяў у Менску.

Як прыклад - сярод пытаньняў, што ўздымаліся Высокай дэлегацыяй БНР ў Брусэлі, была справа стварэньня Фонда Салідарнасьці: дзеля гуманітарнай падтрымкі асобаў (ды іх родных), што знайшліся бы ў цяжкім матэрыяльным становішчы з прычыны перасьледу за палітычную дзейнасьць, дзеля стыпэндыяў студэнтам, выключаным з ВНУ з палітычных матываў, і г.д.

# Замежнапалітычная дзейнасьць Рады БНР: голас вольнай Беларусі ў вольным сьвеце

*(пачатак на старонцы 12)*

Беларуская дэлегацыя заклікала таксама, каб фінансы, прызначаныя раней Эўразьвязам Беларусі на "тэхнічную дапамогу", але не скарыстаныя з прычыны адмовы ўладаў РБ ад супрацоўніцтва, былі перанакіраваны на карысьць Беларусі ў іншы спосаб: для падтрымкі беларускай грамадзянскай супольнасьці і незалежных крыніцаў інфармацыі.

Праз колькі дзесяцігодзьдзяў Рада БНР на эміграцыі змагаецца за рэалізацыю ідэалаў 25 сакавіка - ідэалаў беларускай нацыянальнай незалежнай дэмакратычнай дзяржаўнасьці. Напрыканцы аднак трэба зазначыць, што - хаця Рада БНР на Выгнаньні шчыльна трымаецца прынцыпаў непартыйнасьці - падтрымка яе дзейнасьці з боку дэмакратычных грамадзкіх ды палітычных арганізацыяў Беларусі надзвычай важная. Для Рады гэта важна перадусім маральна, а таксама бо гэткая падтрымка дадае вагі аргумантам яе прадстаўнікоў ў іх дзейнасьці - спрыяць як найхутчэйшаму ўсталяваньню дэмакратычнае улады ў незалежнай беларускай дзяржаве. Сёньня і надалей Рада БНР захоўвае пераемнасьць беларускай нацыянальнй дэмакратычнай дзяржаўнасьці ды застаецца голасам гэткае Беларусі ў замежжы.

**Юры Гембіцкі**

# Адным абзацам

## Хто яшчэ тут беспрацоўны?

Зьмены ў закон аб занятасьці насельніцтва, якія падрыхтаваныя для прыняцьця Палатай прадстаўнікоў на восеньскай сэсіі, уводзяць больш жорсткія патрабаваньні для атрыманьня статусу безпрацоўнага. А калі хто ня ўладкаваўся на працы больш за тры гады, будуць пазбаўленыя такога статусу, а разам зь ім – і пасобія. А калі беспрацоўнага будзе накіроўваць на прафэсійную перападрыхтоўку раённы аддзел занятасьці, дык такія людзі таксама будуць ужо лічыцца працоўнымі. Так, трохі-патроху, хутка афіцыйная статыстыка палічыць, што беспрацоўных у краіне не засталося зусім.

## На рынках – без абутку

Беларускія вытворцы абутку, занепакоеныя тым, што ў Беларусь імпартуецца ўсё больш кітайскага абутку, пазначанага як расейскі (доля такога абутку, па іх зьвестках, складае 60 %), прапануюць ураду забараніць гандаль абуткам на рэчавых рынках краіны й ўвесьці ліцэнзаваньне гандлю абуткам. У дадатак да гэтага беларускія абутковыя прадпрыемствы прапануюць дзяржаўнаму мытнаму камітэту больш пільна сачыць за сэртыфікатамі паходжаньня тавараў, якія ўвозяцца ў Беларусь з Расеі.

## Дыягназ сельскай гаспадаркі

У беларускай сельскай гаспадарцы склалася складаная сытуацыя. Пра гэта з усёй сьмеласьцю паведаміў міністр сельскай гаспадаркі й харчаваньня Леанід Русак. За першыя паўгады выручка ад рэалізацыі прадукцыі павялічылася ў параўнаньні з 2004 годам на 574 мільярды рублёў, а затрачана на яе вытворчасьць – на 715 мільярдаў. А больш за 40 % прыбытку было сфармавана за кошт датацыяў з рэспубліканскага й мясцовых бюджэтаў. Запазыка перад вытворцамі ўзрасла на 800 мільярдаў рублёў.

**Юры Гембіцкі**

# Кошты б'юць рэкорды

Кошты на жытло працягваюць расьці. У верасьні адбыўся чарговы скачок. Сярэдні кошт квадратнага мэтра аднапакаёвай кватэры на другасным рынку жыльля ўпершыню дасягнуў адной тысячы даляраў. І кошты працягваюць расьці.

Яшчэ чатыры гады таму аднапакаёвую кватэру ў Менску можна было набыць за 6 тысячаў даляраў. Зараз меней, чым 30 тысячаў, у сталіцы не каштуе ніводная кватэра. Сярэдні кошт аднапакаёвае — 35 тысячаў, двухпакаёвай — 43, трохпакаёвай — амаль 50. Прычынаў некалькі. Па-пешае, будаўнічая галіна й галіна вытворчасьці будаўнічых матэрыялаў вельмі энэргаёмістыя. Плюс увесь час ня падае попыт, які стабільна перавышае прапанову. Сюды ж трэба дадаць рост ільготаў для шэрагу сацыяльных катэгорыяў. Напрыклад, нядаўна на зьезьдзе БРСМ А.Лукашэнка зноў абяцаў прэфэрэнцыі моладзі што да коштаў на кватэры. Дзіўная сытуацыя: колькасьць ільготных крэдытаў перавышае вытворчыя магутнасьці будаўнікоў. Сёлета горад Менск пляную ўвесьці ў эксплюатацыю 840 тысячаў кв.мэтраў жытла. У наступным — 1 мільён. Нічога не дапамагае. Рыэлтары кажуць, што вялікую колькасьць жытла на першасным рынку практычна оптам скупаюць расейцы. А потым перапрадаюць праз агенцыі, праз другасны рынак. А калі Расея вызначыць на будучы год новыя цэны на газ і электрычнасьць, то зімой у Беларусі трэба чакаць чарговы віток падвышэньня коштаў на жытло.

Праблема палягае ў тым, што дзяржава кантралюе продаж будаўнічых паслугаў, рынак зямлі і не дапускае на рынак кампаніі, якія маглі б істотна пашырыць продаж паслугаў і кватэраў. Упраўленьні капітальнага будаўніцтва — менскі і абласны УКСы, якія будуюць кватэры, разам зь Міністэрствам архітэктуры жорстка кантралююць гэты рынак, і менавіта яны ёсьць галоўнымі адказнымі, што кошты на жытло ўзьляцелі на ўзровень праскіх, пецярбурскіх, будапешцкіх, і ўжо падбіраюцца да маскоўскіх.

Юры Гембіцкі

# Направа, па справядлівасьць

Падведзеныя вынікі першага туру прэзыдэнцкіх выбараў у Польшчы. У другі тур выйшлі два прадстаўнікі правых партыяў – лібэральнай і кансэрватыўнай. Лідэрам пасьля першага туру зьяўляецца кандыдат лібэральнай партыі "Грамадзянская плятформа" Дональд Туск (36,3 % галасоў выбарнікаў). Другое месца – у Леха Качыньскага, мэра Варшавы, прадстаўніка кансэрватыўнай партыі "Права й справядлівасьць" (33,1 %). Адлегласьць паміж кандыдатамі вельмі малая. Асабліва калі ўлічыць, што яшчэ меней месяца таму ён складаў амаль 20 % на карысьць Туска. Другі тур адбудзецца 23 кастрычніка. Трэцяе месца заняў папуліст Анджэй Лэпэр, чацьвертае – сацыяліст Марэк Бароўскі. Яны з гонкі выбылі.

Нагадаем, правыя партыі атрымалі пераканаўчую перамогу й на парлямэнцкіх выбарах у Польшчы. З тых 460 месцаў, якія ёсьць у польскім Сэйме, 322 атрымалі тры правыя партыі – кансэрватыўная "Права й справядлівасьць", якая зьяўляецца нашай партэрскай партыяй (155), лібэральная "Грамадзянская плятформа" (133) і ўльтракаталіцкая "Ліга польскіх сем'яў" (34).

Астатнія месцы падзяліліся так: партыя "Самаабарона" (ці, як яе называюць польскія экспэрты, Партыя аматараў Лукашэнкі), якую ўзначальвае палітык-папуліст Анджэй Лэпэр, узяла 56 мандатаў, "Дэмакратычны альянс левых" атрымаў 55 месцаў, яшчэ адна левая, "Сялянская партыя" – 25, і 2 мандаты пайшлі да прадстаўнікоў Партыі нямецкай меншасьці.



*Лех Качыньскі*

Згодна традыцыі, прадстаўнік партыі, якая атрымала перамогу, становіцца прэм'ер-міністрам. Гэта будзе кіраўнік эканамічнага блёку "ПіС" Казімеж Марцінкевіч. Левых жа ва ўрадзе ня будзе ўвогуле. Аднак, як ня дзіўна, у "Права й справядлівасьці" лева-цэнтрысцкая эканамічная плятформа: па-першае, "ПіС" выступае не за ліноўны, а за прапарцыйны падаходны падатак. Калі сказаць каротка, дык кіраўнікі "ПіСу" лічаць, што "багатыя павінны плаціць у бюджэт болей", па-другое, яны выступаюць за падатковыя ільготы й дзяржаўную дапамогу бедным, і па-трэцяе, не зьбіраюцца адмаўляцца ад польскага злотага (лібэральная "Грамадзянская плятформа" наадварот агітуе за памяншэньне ролі дзяржавы, увядзеньне эўра й адзінай стаўкі падатку ў 15 % для ўсіх). Тымчасам, дарэчы, у Літве два тыдні таму ўрад прыняў рашэньне пра пераход на эўра зь 2007 году.

Так у Польшчы сёлета склалася ўпершыню, калі у адзін год абіраюць і прэзыдэнта, і абедзьве палаты парлямэнту – Сэйм (460 дэпутатаў па прапарцыйнай сыстэме), і Сэнат (100 дэпутатаў – аднамандатнікаў). Паўнамоцтвы прэзыдэнта доўжацца 5 гадоў, парлямэнта – 4, то бок раз на 20 гадоў такое цяпер будзе адбывацца (адлік ідзе зь 1989 году, калі адбыліся першыя адносна свабодныя выбары). У 1990 годзе першым прэзыдэнтам "трэцяй Рэчы паспалітай" стаў кандыдат "Салідарнасьці" Лэх Валэнса, у 1995-м, а затым – і ў 2000-м перамогу сьвяткаваў прадстаўнік посткамуністаў Аляксандр Квасьнеўскі. Зараз перамогу йзноў атрымае правы кандыдат. Абодва правых кандыдата ўвогуле не адчувалі падчас кампаніі ніякіх пагрозаў ад сацыял-дэмакратычных канкурэнтаў, бо напрыканцы верасьня з прэзыдэнцкай кампаніі зьняўся галоўны прэтэндэнт на прэзыдэнцкую пасаду ад левых, сьпікер Сэйму Уладзімер Цімашэвіч. Ён ня вытрымаў абвінавачваньняў прэсы ў памылках пры падачы дэклярацыі аб даходах, і зрабіў заяву пра брудныя мэдыйныя тэхналёгіі, якія выкарыстоўваюцца ў кампаніі. Але, здаецца, ня меў рацыі. Бо ў Польшчы (і гэта прызнаюць назіральнікі й экспэрты з усіх краінаў Эўропы) ідзе досыць



*Дональд ТУСК*

спакойная, можна нават сказаць, трывіяльная кампанія без вялікіх скандалаў і моцных эксцэсаў. Адзіная трагедыя, што здарылася падчас кампаніі – гэта сьмерць ў аўтамабільнай катастрофе кандыдата ў прэзыдэнты Даніэля Паджыцкага, лідэра Польскай партыі працы. Праўда, у яго, згодна з вынікамі сацапытаньняў, ня было й 1 % падтрымкі. Аварыя здарылася ўвечары ў суботу два тыдні таму, калі Паджыцкі вяртаўся ў Варшаву з Катавіцаў, дзе рыхтаваў свой уласны передвыбарчы тэлевізыйны ролік. Кіраваў машынай ў момант аварыі сам Паджыцкі. Машына праламіла бар'ер агароджы й выехала на паласу сустрэчнага руху.

З астатніх былых прэтэндэнтаў на прэзыдэнцкую пасаду можна назваць Анджэя Лэпэра (14 %), Марэка Бароўскага (10 %), Яраслава Каліноўскага (2 %), Хенрыку Бохняж і Мацэя Гертыха (па 1 %). Дарэчы, апошні зьяўляецца бацькам Рамана Гертыха, старшыні партыі "Ліга польскіх сем'яў". Цікава, што партыя вось так на практыцы прапагандуе сямейнасьць у палітыцы. Яшчэ адна вядомая польская палітычная сям'я – Качыньскія. Бо старшыня партыі "Права й справядлівасьць" (зь якой у Партыі БНФ падпісана міжпартыйная дамова аб супрацы) – Яраслаў Качыньскі, а яго брат Лех – кандыдат на прэзыдэнта.

# Новы канцлер – правы канцлер

Юры Гембіцкі



Новым канцлерам Нямеччыны стала лідэр ХДЗ/ХСЗ Ангеля Мэркэль. Прыгадаем, на парлямэнцкіх выбарах 18 верасьня блёк ХДЗ/ХСЗ атрымаў 35,2% галасоў выбарнікаў (226 месцаў у Бундэстагу), а сацыял-дэмакраты Гэрхарда Шродэра – 34,3 % (222 месца).

У выніку перамоваў паміж асноўнымі праціўнікамі было дасягнутае пагадненьне, што канцлерам стане спн. Мэркэль, а сацыял-дэмакраты атрымае восем месцаў ва ўрадзе (а менавіта –міністраў замежных справаў, фінансаў, юстыцыі, аховы здароўя, транспарту, навакольнага асяродзьдзя, эканамічнага разьвіцьця й супрацы. Прадстаўнікі правых атрымаюць шэсьць міністэрскіх пасадаў. Гэта й называецца "вялікая кааліцыя". Зараз гэтае міжпартыйнае пагадненьне павінны зацьвердзіць новы склад Бундэстагу – ніжняй палаты нямецкага парлямэнту.

Пасьля таго, як стала вядома, што фэдэральным канцлерам будзе Ангэля Мэркэль, сп. Шродэр абвясьціў пра свой сыход зь вялікай палітыкі.

Зрэшты, каб расчысьціць шлях брату на прэзыдэнта, Яраслаў Качыньскі й адмовіўся ад пасады прэм'ер-міністра, і перадаў яе сп. Марцінкевічу. Бо калі б Яраслаў Качыньскі пагадзіўся стаць прэм'ер-міністрам, дык за яго брата Леха выбарнікі б не прагаласавалі дакладна. Два Качыньскіх на дзьвюх вышэйшых пасадах у краіне – хіба што замнога. Тым больш, што браты падобныя адзін на аднаго як дзьве кроплі вады, бо яны – блізьняты. Вось такія сямейныя тандэмы. Але ж Марцінкевіч таксама можа яшчэ й ня стаць прэм'ерам, бо калі пераможа Лех Качыньскі, дык, згодна з міжпартыйнымі дамовамі, прэм'ерам мусіць стаць прадстаўнік "Плятформы", і гэта, хутчэй за ўсё, будзе Ян Ракіта. Калі ж пераможа Туск, дык Марцінкевіч будзе прэм'ерам, а Качыньскія застануцца ўвогуле без галоўных пасадаў.

Дарэчы, сёньняшняя палітычная канфігурацыя на правым флянгу польскай палітыкі паўстала ў 2001 годзе, пасьля паразы правых на парлямэнцкіх выбарах. "Грамадзянская плятформа" – нашчадак правалібэральнай партыі "Вунія свабоды", часткі кааліцыі "Акцыя выборча Салідарнасьць". А партыя "Права й справядлівасьць" – выключна праект братоў Качыньскіх. Яны на пачатку 90-х былі паплечнікамі Валэнсы, а потым часова пайшлі ў цень. Але ж напрыканцы 90-х нечакана прэм'ер Ежы Бузак прапаноўвае Леху Качыньскаму пасаду міністра юстыцыі, і той, дзякуючы сваёй радыкальнай, рэзкай, агрэсіўнай рыторыцы (шмат хто з знаўцаў польскага "палітычнага рынку" у Беларусі кажа пра Качыньскага, што гэта – такі сабе "польскі Зянон Пазьняк") становіцца досыць папулярным на фоне агульнага заняпаду даверу грамадзкасьці да ўраду Бузака. У кожным разе, афіцыйным уладам Беларусі зараз няма чаго разьлічваць на пацяпленьне адносінаў з Польшчай. Бо й Туск, і Качыньскі выразна падтрымліваюць беларускія дэмакратычныя сілы. Абодва фаварыта прэзыдэнцкай гонкі ўжо абвесьцілі прыярытэт у дачыненьнях зь Беларусьсю – гэта адзіны дэмакратычны кандыдат у прэзыдэнты, якім быў абраны Алесь Мілінкевіч. Так што пазыцыя г.зв. "крытычнага дыялёгу" у дачыненьні да нашай краіны, якую праводзіў папярэдні ўрад, калі пры пазьбяганьні кантактаў з вышэйшым кіраўніцтвам Беларусі, польскія ўлады мелі кантакты з прадстаўнікамі нізавых уладных структураў Беларусі, дакладна саступіць месца адкрытаму супрацьстаянью. З беларускім рэжымам. Тым больш, што апошнім часам беларускія афіцыйныя СМІ прадстаўляюць Польшчу як "аплот варожых сілаў". Усё зьмяшалася – і канстытуцыйны рэфэрэндум, і разгром зьвязу палякаў, і польскія выбарчыя кампаніі, і беларуская, якая ўжо відавочна стартавала вуснамі беларускіх тэлевізійных прапагандыстаў. Пры гэтым Беларусь раптам апынулася ў варунках польскіх інтарэсаў. Польшча імкнецца адыгрываць важную ролю ў зўрапейскай ўсходняй палітыцы, й тэма Беларусі апошнім часам канчаткова аддзялілася ад расейскай праблематыкі. І лідэры "ПіСу", і лідэры "Плятформы" заяўляюць, што цікаўнасьць да Беларусі знойдзе сваё ўвасабленьне ў адпаведных захадах — адкрыцьці беларускамоўных радыястанцыяў, у сяброўстве з беларускімі палітыкамі з эўраатлянтычнай пазыцыяй, у падтрымцы апальных дзеячоў Зьвязу палякаў на чале з Анжалікай Борысі. Так што давядзецца спадару Лукашэнку панэрвавацца, і, хутчэй за ўсё, да прэзыдэнцкіх выбараў у нашай краіне ў Менск так і не прыедзе ані амбасадар Тадэвуш Паўляк, ані хто іншы з кіраўнікоў польскай дыпляматычнай місіі.

## Партнэрская партыя БНФ атрымала перамогу на парлямэнцкіх выбарах

# Моладзь БНФ. Каманда



старшыня

## АЛЕСЬ КАЛІТА

**21 год.** У 1999 годзе скончыў школу, паступіў у Магілёўскі політэхнічны тэхнікум, у 2002 годзе з палітычных матываў быў адлічаны. У 2002 годзе скончыў Беларускі недзяржаўны тэхнікум бізнэсу й права, факультэт правазнаўства й па адукацыйным профілі паступіў на 3-ці курс факультэта правазнаўства Менскага Інстытута Кіраваньня, дзе на дадзены момант вучыцца.

У 2003 г. быў назіральнікам на выбарах у мясцовыя саветы ў камандзе Алеся Бяляцкага.У 2004 г кіраваў інфармацыйнай кампаніяй у адным са штабоў кандыдатаў ад ПБНФ у Палату Прадстаўнікоў. У 2005 г. распаўсюдзіў 50.000 асобнікаў газэты "Дзень волі", прысьвечанай 25-аму сакавіка. Актыўна ўдзельнічаў у акцыях пратэсту супраць фальсыфікацыяў вынікаў Рэфэрэндуму 17 кастрычніка 2004 г., быў назіральнікам на выбарах ва Украіне й10 дзён жыў у намётным гарадку на Майдане Незалежнасьці ў Кіеве падчас акцыяў пратэсту ўзімку 2004 г.



газэта Моладзі БНФ

## Каця Маркоўская

20 гадоў. Выпускніца Беларускага ліцэю. Студэнтка БДУ. У Партыі з 2003 году. Працавала ў штабах некаторых кандыдатаў ад ПБНФ на выбарах у Палату Прадстаўнікоў, працавала назіральнікам на выбарах 17 кастрычніка 2004 г. Суарганізатар Моладзевага дыскусійнага клюбу з 2004 г. Прадстаўляла ПБНФ на сэмінарах у Вугоршчыне, Літве, Украіне, Польшчы. Некалькі разоў была выпускным рэдактарам «Навінаў БНФ».



аддзел PR

## МакарВаўчок

18 гадоў. Студэнт МДЛУ. У палітычнай дзейнасьці з 2001 году. Падчас выбарчай кампаніі 2004 году асабіста абышоў тысячы кватэраў, распаўсюдзіў многія тысячы ўлётак. Неаднаразова затрымліваўся міліцыяй



Навучальны аддзел

## Франак Вячорка

17 гадоў. Скончыў Беларускі ліцэй. Студэнт. 2002-2004 - старшыня вучнёўскага самакіраваньня ліцэю, з 2002 г - рэдактар газэты «Трыкутнік». У палітычнай дзейнасьці з 2001 году. 2003-2004 гады адміністраваў сайт pbnf.org. Прымаў актыўны ўдзел у выбарчых кампаніях 2001, мясцовых саветаў 2003, у Палату прадстаўнікоў 2004. 2002-2003 сябра Маладога фронту, з 2005 г. займаецца моладзевай працай у Партыі БНФ.



Спартовы аддзел

## Яўген Пугач

21 год. Жыве ў горадзе Смалявічы. Вучыцца ў адным зь менскіх ВНУ. Сталы сябра Смалявіцкай суполкі «Маладога фронту». Прыхільнік Партыі БНФ. Да палітычнае партыйнае працы актыўна далучыўся ўлетку 2005 году. Шмат гадоў займаецца футболам.



культурніцкі аддзел

## Яўген Неткачэў

18 гадоў. Студэнт БДУ. Актыўна прымаў удзел у акцыях у абарону праспэкту Скарыны. Прымаў удзел ад Партыі БНФ у моладзевай канфэрэнцыі, ладжанай польскай арганізацыяй «Малады цэнтар».



культурніцкі аддзел

## Сяржук Семянюк

20 гадоў. Студэнт Віленскага падагагічнага ўнівэрсытэта. За палітыку быў выключаны з БАТУ. Актыўны сябра ЗБС, балятаваўся на яго старшыню. Удзельнічаў ва ўсіх выбарчых кампаніях апошніх гадоў, вулічных акцыях ПБНФ. Удзельнічаў у некаторых міжнародных стажах і канфэрэнцыях. Сябра ПБНФ

Намесьнік старшыні

## Ігар Казьмярчак

21 год. Жыве й працуе ў г. Ворша. Старшыня Аршанскай філіі «Маладога фронту». З 2002 г. сябра ПБНФ. Старшыня Рады моладзевых аб'яднаньняў Аршаншчыны.

Сакратарыят

## Алесь Шарафановіч

25 гадоў. Сябра ПБНФ. Удзельнік усіх акцыяў у абарону праспэкта Скарыны, палітычных кампаніяў апошняга часу. Як самы старэйшы, бярэцца за арганізацыйна-каардынацыйную працу ў арганізацыі.



Навіны БНФ

**E-mail:** pbnf@pbnf.org
**Сайт:** http://www.pbnf.org
**Адрас для ліставаньня:** 220005, Менск, вул. Варвашэні 8, Сядзіба БНФ

**Галоўны рэдактар:** Юры Гембіцкі
**Выпускны рэдактар:** Франак Вячорка

№9(87), 15 кастрычніка 2005 г., наклад 299 ас.
Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранай дакумэнтацыі